ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 7-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 13-14 (69-70) ● Пятніца, 15 кастрычніка 1999 г. ● У розніцу кошт 30000 руб.

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ЗАРЭЧНАЯ ПАПРЫГАЖЭЕ

Хоцімскі райвыканкам прыняў рашэнне ажыццявіць добраўпарадкаванне вуліцы Зарэчнай у гарадскім пасёлку. Рыхтуецца праектна-каштарысная дакументацыя, а далей — справа будаўнікоў і камунальнікаў.

**Наш кар.**

### ПАГРАНІЧНІК "ПРАПІЎ" АЎТАМАТ

Нядаўна адзін з афіцэраў спецыяльнага аддзела Пінскага пагранатрада вяртаўся са службовага задання з аўтаматам К-74. Па дарозе сустрэў свайго калегу па службе. Вырашылі "адзначыць" сустрэчу. Добра "паддалі"... Што было далей — гэта афіцэр не памятае. Знайшлі вайскоўца на ўскраіне Пінска. Ён соладка спаў на аўтобусным прыпынку. Адзін і без аўтамата.

Вядома ж, узбуджана крымінальная справа па гэтаму факту.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### ДОХНУЦЬ СВІННІ

На свінакомплексе калгаса імя Кірава Драгічынскага раёна толькі за адзін тыдзень здохла больш як 200 свіней. Жывёла пацярпела ад пастэрылёзу. Прычына захворвання свіней хаваецца ў недабраякасным кармленні.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### БЕЛАРУСКІХ ПАСОЛЬСТВАЎ БУДЗЕ БОЛЬШ

Сёлета прадугледжана адкрыццё пасольстваў нашай дзяржавы ў Швецыі і Венгрыі. У 2000 годзе плануецца адкрыць генеральныя консульствы Беларусі ў Гамбургу, Мюнхене і ў Стамбуле.

Акрамя таго, у бліжэйшы час адбудзецца пераезд пасольства Беларусі ў Германіі з Бона ў Берлін. Дыпламатычнае ж прадстаўніцтва ў Боне плануецца пакінуць як аддзяленне пасольства.

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ.**

### НАЧАЛЬНІКІ — ЗЛОДЗЕІ

У Лёзненскім раёне старшыня аднаго калгаса украў у падначаленай яму гаспадарцы 100 тон збожжа на суму 116,4 мільёна рублёў.

У Салігорскім раёне кіраўнік гаспадаркі прыхапіў 13 галоў буйной рагатай жывёлы на агульную суму 250 мільёнаў рублёў.

Аналагічнае злачынства на пару з галоўным бухгалтарам учыніў старшыня аднаго з калгасаў Мсціслаўскага раёна, дзе было ўкрадзена 18 кароў і цялят. Супраць усіх гэтых раскрадальнікаў узбуджаны крымінальныя справы.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЯ З ПАВЕТРА

Беларускія вучоныя распрацавалі ветраэнергетычную ўстаноўку, якая не мае аналагаў у свеце. Апарат здольны перапрацаваць паветра, якое рухаецца (вецер) са скорасцю ўсяго 3-6 метраў у секунду, ловячы яго ўсечанымі лопасцямі.

У перспектыве падобныя машыны змогуць задаволіць 20-25% патрэб Беларусі ў электраэнергіі.



*Восеньская ідылія.*

**Фота В. БЫСАВА.**

Як інфармуюць распрацоўшчыкі ветраэнергетычнай устаноўкі, на тэрыторыі краіны існуе каля 2 тысячы кропак, у якіх можна размясціць ветрастанцыі, здольныя выраблзць да 800 тысяч КВт/г за год.

### БУЛЬБЫ МАЛА, АЛЕ З РАСІЯЙ ПАДЗЕЛІМСЯ

Сёлета Беларусь плануе паставіць іншым краінам і, перш за ўсё, Расіі, 200 тысяч тон бульбы.

Не так даўно наша краіна экспарціравала за мяжу больш мільёна тон "другога хлеба", таму трэба чакаць, што скарачэнне экспарту падтрымае айчыннага спажыўца...

Хаця, зразумела, што змяншэнне гэта звязана толькі з небагатым ураджаем бульбы.

### ЖЫВЫ ТРУП

Напэўна ў трох кашулях нарадзіўся 38-гадовы гуляка з Омска. Вялікі аматар выпіць, ён вечарам, вельмі "паддаты", забрыў на рэйкі. Машыніст заўважыў чалавека, але ўжо нічога зрабіць не змог. Электравозам алкаша збіла і зацягнула пад цягнік. Цела выцягвалі з-пад пятага вагона ад галавы цягніка. Усе былі ўпэўнены, што чалавек мёртвы. Аднак чыгуначнікаў чуть не хапіў удар, калі труп раптам вырваўся, абклаў іх трохпавярховым матам і патупаў, куды яму трэба.

Потым медэкспертыза выявіла ў яго толькі пару шышак на ілбе.

Міліцыянты, якія расследвалі здарэнне, не маглі прыпомніць такога шчаслівага зыходу.

**Газета "НГН"**

ІНТЭРВ'Ю У НУМАР

## Самая вострая праблема — выплата заробкаў

Саўгас "Трасціно" Хоцімскага раёна. За апошнія 2-3 гады былыя яго кіраўнікі давялі, як кажуць, да ручкі. Пагалоўе і буйной рагатай жывёлы, і свіней тут скарацілася амаль ці не напалову, плошчы, занятыя пад бульбай зменшыліся недзе ў 7-8 разоў, запушчаны, зараслі пустазеллем, бадыллем, а месцамі і хмызняком дзесяткі гектараў некалі ворных земляў. Зараз у гаспадарку прышоў новы дырэктар І.М.Міхаленка. Да яго і спецыяліста па корманарыхтоўках В.П.Брыткіна звяртаюся з пытаннямі.

Д. **— Іван Мікалаевіч, калі Вы ішлі сюды, ведалі, які тут у саўгасе развал?**

М. — Нешта чуў, але калі сутыкнуўся з рэаліямі — здзіўленню майму не было канца. Але што паробіш... Як кажуць, назад ракі не поўзаюць.

Д. **— Думаеце крыху паправіць справы?**

М. — Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Імкнемся палепшыць справы. Спадзяемся, што паправім.

Б. —Ужо папраўляем. Ужо фактычна не толькі маем намер, ужо папраўляецца становішча.

Д. **— Добра. Давайце наконт памяшканняў фермы ў вёсцы Маркаўка. Некалі тут адкормлівалася адначасова 400 бычкоў. А зараз —вецер гуляе...**

М. — У наступным годзе зоймемся аднаўленнем. Сёлета ў нас няма ні сродкаў, ні сіл. Ды і няма каго туды ставіць на адкорм — пагалоўя не хапае...

Д. **— Цікава, каму прышла ў галаву хворая думка ў новым памяшканні паламаць і выкінуць кармушкі, новенькія гноевыя транспарцёры? Гэта ж такія грошы каштуе, столькі матэрыялаў загублена?**

М. — Кажуць, што хацелі па гродзенскай тэхналогіі туды свіней паставіць.

Д. **— А тыпавая свінаферма, напэўна, паўпустуе?**

Б. — Не паўпустуе, а, можна сказаць, — пустуе. Зараз тут утрымліваецца 400 галоў, а стаяла недзе 2000.

М. — 2500.

Д. **— Дык які ж дурань рашыў нармальную свінаферму пакінуць пустой, а добрую, новую ферму для адкорму БРЖ — ламаць?**

Б. — Зрабіць бы адзін дадатковы хлеў і ўсё ў парадку. Не трэба ламаць было. А тут з раёна далі каманду, быў ж дырэктар Папелыш, каб дагадзіць —хутчэй ламаць. Па прынцыпу ламаць не будаваць, галава не баліць.

М. — Ну што толку цяпер... Камусьці ўздумалася паламаць, паламалі. Іх і след прастыў... А нам зараз трэба ўсё выпраўляць.

Д. **У восень клопатаў шмат. Ужо час клапаціцца і пра зімоўку жывёлы. Як тут справы?**

М. — У вёсцы Падлесная ферму ўжо адрамантавалі. Перакінулі будаўнікоў на Разальмоўскую ферму...

Б. — Упэўнены, да пастаноўкі жывёлы на стойлавае ўтрыманне з рамонтам усіх памяшканняў справімся. З гэтым праблем не будзе.

Д. **— А як з пагалоўем? Колькі кароў на 100 га сельгасугоддзяў маеце?**

М. — 13.

Д. **— А быў час — даходзіла да 21.**

Б. — Раней было да 2800 кароў, а зараз 1200.

Д. **— З кормам сёлета будзе нармальна?**

М. —З кармамі будзе добра. Наяўнае пагалоўе ўсё будзе забяспечана ўдосталь.

Б. — Ужо сёння мы маем больш 22 ц кармавых адзінак на ўмоўную галаву. А яшчэ ж не закончана ўборка буракоў.

Д. **— Цяпер аб фінансах. Даўгоў хапае?**

М. — У даўгах, як у шаўках... Адных кароткатэрміновых крэдытаў 700 мільёнаў рублёў.

Б. — А толькі за энерганосьбіты трэба 7 мільярдаў плаціць.

М. — Дзевяць!

Б. — Ужо дзевяць?

М. — Доўгатэрміновых жа крэдытаў маем звыш 20 мільярдаў...

Д. **— І ў заключэнне: якія праблемы Вас сёння больш за ўсё хвалююць.**

М. — Праблемы, праблемы... Іх вунь колькі! Але самая вострая праблема — выплата заробкаў. Масларобчы завод не выплочвае своечасова грошай за здадзенае малако. А затрымка — значыць страты. Інфляцыя з'ядае нямала.

Д. **— Напаследак хачу напомніць, што наша газета ўжо крытыкавала Вас і Трасцінскі сельсавет за тое, што вакол ферм буяе пустазелле. Як вы рэагуеце на гэта?**

М. — Будзем акультурваць прыфермскія ўчасткі, абкошваць, заворваць пустазелле. На ферме ў вёсцы Будачка гэта ўжо часткова зроблена. Кончым уздым зябліва —навядзём санітарны парадак ля ферм паўсюдна ў саўгасе.

**Гутарку правёў В.ДАЎГАЛЁЎ.**

**Д., М., Б. — Даўгалёў, Міхаленка, Брыткін.**

## СЛОВЫ І СПРАВЫ

"...для мяне не сакрэт, што людзям цяпер жывецца нялёгка, у іх шмат праблем.

...Яны вераць і спадзяюцца, што ўлада іх не падвядзе. Таму я вымушаны быў ім гарантаваць, што на працягу паўгода мы канчаткова стабілізуем абстаноўку ў краіне. І так будзе.

...Ужо ў кастрычніку гэтага года нам усім стане жыць лягчэй.

Да гэтага месяца мы поўнасцю стабілізуем эканамічную сітуацыю ў краіне.

І я са свайго боку зраблю ўсё, каб мае словы не аказаліся пустым гукам".

**А.ЛУКАШЭНКА,**
**(з выступлення ў час рабочай паездкі па Дзяржынскаму раёну сёлетняй вясной).**

Вялікае Вам дзякуй, Аляксандр Рыгоравіч, за бацькоўскія клопаты пра нас, за чарговае абяцанне за паўгода "канчаткова стабілізаваць" абстаноўку ў краіне.

Вось ужо палова кастрычніка мінула, і мы бачым, што сапраўды Вашы словы не пусты гук, а грандыёзны выбух: вясной бохан хлеба каштаваў 26400 рублёў — сёння 64 тысячы, за балон газу мы плацілі 110000, зараз — 210 тысяч рублёў. Электраэнергіі расходвалі, колькі спатрэбіцца, зараз — 60 кілаватгадзін на чалавека за месяц. А праз тыдзень-два, ходзяць чуткі, Урад падкіне нам і яшчэ сюрпрызік: бохан хлеба будзе ўжо за 80 і да 100 тысяч рублёў, падпрыгнуць калі не на 50%, то больш, цэны на газ і электраэнергію.

Так што, вялікае Вам дзякуй, што "ўжо ў кастрычніку гэтага года нам усім стане жыць лягчэй".

**Людзі.**
**(і з горада, і з вёскі).**

● Пацікавімся

# ПОЧЕМ НЫНЧЕ БЕЛОРУСЫ?

"За Бугром", говорят, расспрашивать друг друга о размере зарплаты считается дурным тоном — не принято у немцев и прочих шведов заглядывать в чужой кошелек, да и никто по собственной доброй воле его и не раскрывает. Другое дело у нас — чужими доходами, даже не обладая "корочками" сотрудников налоговых служб, интересуемся с живостью, да и свои не очень то скрываем: "На два похода в магазин да за свет, воду заплатить!" Во всеобщий жалобный стон по поводу мизерных зарплат то и дело вливаются голоса губернаторов да генералов, иной раз подключается и президент и им, оказывается, с окладами, едва превышающими 100 долларов, неуютно... В общем, своими заработками недовольно подавляющее большинство жителей Беларуси. Действительно, радоваться нечему: по данным Министерства статистики и анализа республики, в июле реальный размер средней начисленной заработной платы рабочих и служащих составил 21.542.983 рубля (около 48 долларов США по курсу "черного" рынка наличной валюты). И, наверное, мало кто из наших работающих соотечественников согласен с тем, что его труд вознаграждается по справедливости. А вот представление о собственной цене на рынке труда, как выяснилось во время недавнего экспресс-опроса, у каждого свое...

**Семен Т., таксист:** "Мне моих официальных 12 миллионов и еще некоторой суммы "чаевых" совершенно не хватает на то, чтобы прокормить семью из трех человек. Сколько хотел бы получать? Вопрос дурацкий, я вам скажу. Один мой знакомый минский таксист уехал по контракту в Москву и получал там, работая водителем в одном из западных посольств, 1.000 баксов. Потом ему это надоело, и он подался в таксисты. И имеет в общей сложности столько же. И не жужжит! Так вот я и считаю: если в Минске жизнь дешевле, чем в Москве, то мне и 500 баксов для полного счастья хватило бы".

**Андрей, лейтенант милиции:** "Знаю, что многие завидуют милиции за большие заработки. Не знаю, может, по сравнению с колхозниками или инженерами мы очень богатые, но моя жена так не считает. Инфляция превращает мою зарплату в ничто. Разве проживешь нормально на 80-100 долларов? И за такие деньги надо сутками с уголовниками общаться, жизнью иной раз рисковать. Хотя у меня запросы скромные — наверное, миллионов 100 зарплаты хватило бы".

**Ирина, белорусская девушка с немецкой "панели":** "Конечно, своими нынешними деньгами я довольна. На зарплату медсестры в районной больнице я и моя мама просто существовали. А сейчас вместе со своим другом из Прибалтики (можете называть его сутенером) ездим в Германию и работаем. По немецким меркам зарабатываю немного, но зато там нет "субботников" для братвы, полиция не насилует и клиенты посимпатичнее. А заработок вывожу в целлофановом кульке, а таком месте, что вы не напечатаете. Вообще в идеале хотела бы зарабатывать 10-20 тысяч долларов в год. И, конечно же, не на панели".

**Александр С., майор Белорусских ВВС:** "Считаю, что нынешняя офицерская зарплата — просто издевательство над военными, о которых якобы заботятся государство и президент. Не знаю, люди разные бывают, кто то уже смирился и дослуживает до пенсии, кто-то просто спился. А я думаю о том, как выбраться из нищеты, и завидую российским офицерам, которым хотя и месяцами зарплату задерживают, но платят больше нашего и к тому же разрешают заниматься коммерческой деятельностью в свободное от службы время. А получать хочу, как в странах НАТО. Там военным цену знают".

**Евгения, "свободная художница":** "Миллиона долларов в год мне вполне хватило бы. И не надо было бы делать всякую халтуру для рекламы и продажи в скверинах. Может быть, тогда бы вообще по одной картире в год писала бы..."

**Николай Григорьевич, гость Беларуси из Новгорода:** "В принципе, от больших денег грех отказываться. Если бы предожили работу по специальности (а я специалист по прокладке теплотрасс) с ежемесячным окладом около тысячи "зеленых", то согласился бы. Но вообще то нашей семье достаточно моих 120 долларов. А супруга, которая работает два раза в неделю в школе учителем пения, получает около 20 долларов. И на жизнь хватает, и на оплату учебы дочки в питерском вузе, и на поездки в ту же Беларусь и даже Узбекистан. Не верите?"

...Как показал наш опрос, многие жители и гости столицы Беларуси считают пределом своих мечтаний 500-1000 долларов в месяц (ответ "свободной художницы" всерьез не воспринимается). Может, потому что суммы круглые, а, может, и действительно, при нынешних ценах да разгуле преступности (зачем "светиться"?) больше иметь не надо. Вывод же, исходя из ответов наших собеседников, можно сделать такой: мы настолько привыкли быть бедными, что говорить о больших личных запросах стесняемся, а менять свою жизнь боимся. Гораздо привычнее жаловаться на маленькую зарплату, плохое правительство, ждать очередного повышения "минималки" и, заглядывая в чужой тощий кошелек, утешать себя тем, что есть кто-то еще дешевле, чем ты.

Расспрашивал
Борис ПАРФЕНТЬЕВ,
АиФ.



*Беларусачка са Слаўгарадчыны.*

Фота В. БЫСАВА.

● Цікава ведаць

# НАВОШТА МЫ СПІМ?

Вучоныя сцвярджаюць, што для ўзнаўлення функцый стомленага арганізма сон не патрэбен. Дастаткова проста фізічнага адпачынку і ежы. Неадольную патрэбу ў сне адчувае толькі мозг чалавека.

Чаго ж шукае і што атрымлівае наша ўсведамленне, рэгулярна пакідаючы рэальнасць і патанаючы ў зыбкае царства Марфея?

Сам сон складаецца з некалькіх фаз. Галоўныя з іх — дзве: сон без бачання чаго-небудзь у сне і парадаксальная фаза, у якой, уласна, і бачаць сны.

А што, калі дазволіць чалавеку спаць, але пазбавіць яго бачыць штосьці ў сне? Аказваецца, чалавек пры гэтым ніколечкі не "адпачне". Тое, што мы лічым "недасыпаннем", ёсць, па сутнасці, недабор мроі ў сне. Гэтыя паўтары-дзве гадзіны з усяго часу сну аказваюцца самымі галоўнымі! Тым, дзеля чаго, уласна людзі і спяць.

Вось чаму людзі, якія не бачаць сноў, адчуваюць, што яны не высыпаюцца, колькі б ні спалі. І пасля сну не адчуваюць, што адпачылі.

Згодна з "кнігай тлумачэння сноў", складзенай славутым медыумам Міс Хасэ і выдадзенай у Варшаве ў 1912 годзе, існуе "галоўнае правіла для асоб, якія імкнуцца спасцігнуць таямніцы сноў: для таго, каб лепей запомніць мрою, належыць штотыднёва мяняць узгалоўе пасцелі, гэта значыць праз кожныя 7 дзён устройваць яго там, дзе раней ляжалі ногі".

Фактычна мроя, на думку псіхааналітыка Зігмунда Фрэйда, выслабаняе спячага ад прымушальных, выцесненых жаданняў.

Агрэсіўныя памкненні, сексуальныя імпульсы, якія не змаглі ажыццявіцца, не знікаюць бясследна. Яны адыходзяць у падсвядомасць, захоўваючы сваю вялізную, выбуховую сілу і патрабуюць выхаду. У сне дзеецца магчымасць такой разрадкі. Малюнкі сну пазбаўляюць псіхіку і свядомасць чалавека ад гэтых разбуральных сіл.

Тое, што ў сне чалавек успрымае як разнастайныя сцэны і сітуацыі —толькі малая частка працэсу, які адбываецца ў яго свядомасці ў гэты час. Ён выбірае, сартыруе і класіфіцыруе ўсю інфармацыю, атрыманую на працягу дня. Пры гэтым усё непатрэбнае адкідваецца і забываецца.

Сны, якія мы бачым ноччу, — абавязковая ўмова асэнсаванага інтэлектуальнага існавання днём. У час сну свядомасць прайграе разнастайныя варыянты магчымых падзей. Чалавек быццам адпрацоўвае розныя лініі паводзін у той ці іншай сітуацыі.

Сон — свайго роду спроба знайсці аптымальную мадэль будучыні.

Спім мы для таго, каб бачыць сны. Але чаму чалавек павінен рэгулярна адыходзіць у мроевы свет, пакуль яшчэ няма адказу.

# ДЫЯНЕТЫКА І НАШ ДУШЭЎНЫ СТАН

У свой час сусветна вядомы матэматык Альберт Эйнштэйн зрабіў ашаламляльную заяву: "Мы выкарыстоўваем толькі 10 працэнтаў нашых разумовых здольнасцяў". Аднак ён не мог сказаць, бо і сам не ведаў, як задзейнічаць астатні патэнцыял нашага мозгу.

А вось амерыканскі вучоны Лафайерт Рона Хаббард распрацаваў сістэму прыёмаў, з дапамогай якіх можна разбудзіць і ўключыць у работу дрэмлючую частку чалавечага розуму.

Ужо ў 1950 годзе ў ЗША налічвалася каля 750 груп, якія практыкавалі "навуку душэўнага здароўя" — дыянетыку. Зараз жа гэтую сістэму псіхалагічнага аздараўлення выкарыстоўваюць мільёны людзей і яна прымяняецца на многіх буйных прадпрыемствах — такіх, як "Джэнерал Маторс", "Вольво" і шмат іншых.

Чалавек, які дакладна вывучыў дыянетыку, можа не толькі сам стаць вясёлым, жыццерадасным аптымістам, але і зможа дапамагчы ў гэтай справе свайму бліжняму.

Як ўстанавіў Хаббард, усе нашы беды і праблемы захоўваюцца ў нашай памяці, якая запісвае абсалютна ўсю інфармацыю, што паступае да нас з навакольнага асяроддзя.

Залёгшы потым у глыбіні нашай падсвядомасці, яна паміма волі чалавека ўплывае адтуль на яго душэўны стан і настрой. А паколькі інфармацыя паступае як добрая, так і дрэнная, то і ўплыў яе на нас адпаведны. Сістэма Хаббарда дазваляе з дапамогай пэўных прыёмаў дастаць непажаданую інфармацыю з нашага банку памяці і нейтралізаваць яе, пасля чаго яна становіцца абсалютна бясшкоднай. Чалавек пасля гэтага збаўляе душэўнае здароўе, у яго паляпшаецца памяць, павышаецца інтэлект, паніжаецца схільнасць да хвароб і стрэсаў.

Пры рэгулярных занятках дыянетыкай жыццё прыцiснутага стрэсамі чалавека, якое раней здавалася яму аднастайным, будзённым і малацікавым, становіцца яркім, насычаным і змястоўным, ператвараецца ў захапляючае падарожжа.

Зараз у Мінску працуе Цэнтр Дыянетыкі. Звязацца з ім можна па тэлефоне (017) — 255-62-94.

# А вы чулі пра гэта?

### РАК ЛЮБІЦЬ ВІТАМІН С

Лішак вітаміну С можа быць таксама шкодным для здароўя як і недахоп. Калі вы ўжываеце больш як 500 мг гэтага вітаміну штодзённа (што адпавядае 10 з'едзеным апельсінам), то можаце захварэць на рэўматызм суставаў і сэрца, атрымаць пашыраны склероз, заўчасную старасць і нават рак... Такія ашаламляльныя высновы зрабілі спецыялісты ўніверсітэта ў Лячэстары, што ў Цэнтральнай Англіі.

Справа ў тым, што антыакісляльнік, падобны на вітамін С, павялічвае ў крыві колькасць свабодных радыкалаў. А ў вялікай колькасці гэтыя агрэсіўныя рэчывы пашкоджваюць малекулы спадчыннасці ДНК, што прыводзіць да мутацый клетак і становіцца прычынай цяжкіх захворванняў. Таму англійскія даследчыкі прапануюць спыніць продаж таблетак, у кожнай з якіх утрымліваецца па 1000 мг вітаміну С.

### ТРЭБА ЗАВЕШВАЦЬ ВОКНЫ Ў СПАЛЬНІ

Ні ў якім разе ў час поўні (фазы месяца) нельга класціся спаць з незавешанымі вокнамі. Гэта датычыць не толькі лунацікаў, але і наогул усіх уражлівых, падуладных дэпрэсіям і дыскафморту, нервозных асоб.

Святло месяца апоўначы заўсёды дрэнна ўплывае на спячых, асабліва калі свеціць прама ў твар.

### АУРУ МОЖНО УВИДЕТЬ

Профессор Эрнст Рифгатович Мулдашев утверждает, что современная техника позволяет наблюдать биополе (или ауру) человека.

На вопрос, что означает хорошая аура, он отвечает, что "в первую очередь — отличное здоровье".

Некоторые йоги не только переходят 100-летний рубеж, но живут до 200, 300 лет. Говорят, есть йоги, живущие до тысячи лет.

### КРОВАЗЛІЦЦЁ ПАД АБАЛОНКУ МОЗГУ БЫВАЕ ВЯСНОЙ ДЫ ВОСЕННЮ

Італьянскія даследчыкі па матэрыялах вывучэння 199 хворых паказалі, што кровазліццё пад абалонку мозгу часцей узнікала ў сакавіку і ў верасні і амаль ніколі — у летнія месяцы. Па гадзінах сутак — часцей каля 9 гадзін раніцы або вечара і ніколі ў 3 гадзіны ночы.

# Рэканструкцыя антычнай Беларусі

## Рассадзін С.Я. "Землі амаль невядомыя"

Лягчэй, прасцей уявіць сабе Беларусь у блізкім учора. Каб даследаваць гісторыю — патрэбны крыніцы. Чым глыбей мы аддаляемся ў сівую даўніну, тым складаней, цяжэй уявіць поўную карціну жыцця і побыту нашых прашчураў. Што ўжо гаварыць пра антычныя стагоддзі! Мы ведаем шмат пра Візантыю, пра заходнюю Рымскую імперыю. А вось адлік уласна беларускай гісторыі пачынаем ці не з "Аповесці мінулых гадоў", створанай летапісцам Нестарам у XI стагоддзі. Аднак, як слушна заўважае Сяргей Рассадзін, звесткі рымскага гісторыка І ст. Тацыта аб рассяленні германскіх плямёнаў, безумоўна, не менш дакладныя, чым паведамленні кіеўскага летапісца XI ст. аб месцазнаходжанні плямёнаў славянскіх. А.Тацыт, у прыватнасці, гаворыць не толькі аб старажытнай Германіі, але і аб народах па-за яе межамі. У тым ліку і аб тых, якія, напэўна, насялялі ў гяоны час нашу Беларусь.

Кніга С.Рассадзіна "Землі амаль невядомыя" — удалая спроба расказаць пра мінулае нашай айчыны з дапамогай антычных пісьмовых крыніц. Фактычна перад намі —першая выразная рэканструкцыя этнічнай Беларусі пачатку тысячагоддзя. Багата ілюстраваная кніга ў адпаведнай ступені адрасавана студэнтам-гісторыкам, вучням і настаўнікам сярэдняй школы. Традыцыйная заўвага да нашага сучаснага неразваротлівага кнігагандлю: выдаўцы аддрукавалі патрэбнае і карыснае даследванне ўсяго ў 2000 асобнікаў. Віна, вядома ж, не выдавецтва, а хутчэй —гандлёвых структур. Хіба ім ёсць справа да гістарычнай памяці?!

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

● Палітыка

# АБ САЮЗЕ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Праект дамовы аб утварэнні саюзнай дзяржавы, апублікаваны ў мінулую пятніцу, ужо не першы, які выносіцца на абмеркаванне. У падмацаванне падобных інтэграцыйных ініцыятываў праводзяцца розныя сацыялагічныя апытанні. Адно з апошніх апытанняў, праведзеных на Украіне, паказала, што найбольш станоўча да Саюзу ставяцца прыхільнікі палітыкаў з найбольш левымі, камуністычнымі поглядамі.

Сёлета ў лютым Расійскі фонд нацыянальнай і міжнароднай бяспекі правёў апытанне сярод жыхароў 12 местаў Беларусі і Расіі. 60 адсоткаў беларускіх грамадзянаў выказаліся за Саюз з Расіяй. Сярод расійцаў 52 адсоткі былі за стварэнне саюзнай дзяржавы. 27 адсоткаў апытаных беларусаў і расейцаў выказаліся супраць.

А як ставяцца да гэтага ў суседніх краінах? Нядаўна Украінскі фонд "Дэмакратычныя ініцыятывы" абнародаваў вынікі апошняга апытання выбаршчыкаў. Ягонай мэтай было высветліць, як ставяцца прыхільнікі таго або іншага кандыдата ў прэзідэнты да магчымасці далучэння да Саюзу Беларусі і Расіі. Паводле звестак цэнтру "Сацыяльны маніторынг" сярод прыхільнікаў Наталлі Ветрэнкі, якая выступае са скрайне левых пазіцыяў, прыхільнікаў саюзу ў два з паловай разы больш, чымся тых, хто выступае супраць. Сярод тых, хто падтрымлівае Спікера ўкраінскага парламенту Аляксандра Ткачэнку, прыхільнікаў саюзу больш як праціўнікаў у два разы. Сярод прыхільнікаў лідэра камуністаў Пятра Сіманенкі прыхільнікі саюзу маюць перавагу ў 90%. А вось сярод тых, хто падтрымлівае цяперашняга прэзідэнта Украіны Леаніда Кучму і экс-прэзідэнта Яўгенія Марчука, больш за 60 адсоткаў лічаць, што далучацца да саюза не варта. Агенцтва "Інтэр-факс", якое апублікавала гэтыя звесткі, не прыводзіць аніякіх падрабязнасцяў. Між тым узнікаюць пытанні: ці выкарыстоўваецца тэма беларуска-расійскага аб'яднання ў перадвыбарчай барацьбе на Украіне, ці прысутнічае гэтая тэма ў праграмах ці выказваннях кандыдатаў у прэзідэнты. І, нарэшце, наколькі шырока асвятляюцца так званыя інтэграцыйныя працэсы ва ўкраінскай прэсе. Вось на гэтыя пытанні мы папрасілі адказаць уласнага карэспандэнта ўкраінскай газеты "Факты" ў Беларусі і Літве Юрыя Валошына:

"— Адзіным кандыдатам, які выказаўся ў справе аб'яднання Беларусі і Расіі быў Аляксандр Ткачэнка, цяперашні спікер парламенту, але зрабіў ён гэтыя выказванні ў Менску. Таму я не лічу, што гэта было зроблена паводле пераканання, бо хутчэй за ўсё гэта быў дыпламатычны ход. У часе візіту ў Менск ён рабіў рэверансы ў бок беларускага кіраўніцтва. Гэта адзіны палітык з тых, хто змагаецца за прэзідэнцкую пасаду, які выказаўся на гэты конт. — Ад Наталлі Ветрэнкі я ніколі не чуў чагосьці падобнага да стаўлення да аб'яднання Беларусі і Расеі. А Кучма наогул вялікі дыпламат у гэтых адносінах і ён звычайна проста маўчыць. А калі нешта і скажа, дык толькі з адной мэтай штосьці атрымаць для Украіны. Таму я думаю, наколькі я знаёмы наогул з меркаваннем насельніцтва Украіны, у тым эканамічным становішчы, у якім знаходзіцца Украіна, зусім маленькі працэнт людзей цікавіцца гэтым аб'яднаннем, бо зараз іх больш цікавіць уласны лёс. І таму я не думаю, што сёння на Украіне гэта мае нейкае істотнае значэнне. Фактычна акрамя газеты "Факты і каментары" ніхто не мае больш карэспандэнтаў у Беларусі, таму паведамленні з Беларусі з'яўляюцца ў прэсе вельмі рэдка. І вельмі рэдка яны сочаць за гэтай тэмай. Магчыма зараз, пасля таго як з'явіўся тэкст дамовы ў беларускіх газетах, хтосьці нешта і можа сказаць, выказаць сваю думку, але я думаю, што гэтага не адбудзецца...

Тым не менш варта звярнуць увагу на агульную заканамернасць: сярод расійскіх палітыкаў, якія ўступілі ў спаборніцтва за дэпутацкія мандаты, а ў перспектыве і за прэзідэнцкае крэсла, таксама найбольшую прыхільнасць да саюзу з Беларуссю выказваюць прадстаўнікі левых сіл. Калі лідэр з крайне правага дэмакратычнага саюзу Канстанцін Баравой неадноймы называў рэжым Лукашэнкі злачынным і гаварыў аб небяспецы імперскіх амбіцыяў, дык лідэр "Яблыка" Рыгор Яўлінскі заклікаў да стрыманасці і разважлівасці ў працэсе аб'яднання дзвюх дзяржаў. Юрый Лужкоў разам з іншымі лідэрамі цэнтрысцкага блоку "Отечество" не ставяць пад сумненне неабходнасмць аб'яднання і выступаюць супраць рэферэндуму ў гэтым пытанні толькі таму, што лічаць яго вынікі прадвырашанымі. І, нарэшце, лідэр КПРФ Генадзь Зюганаў заявіў неяк пра існаванне Беларускага Фронту, які, на яго думку, павінен канчаткова зламаць супраціўленне ідэялагічнага праціўніка ад Балтыкі да Чорнага мора. Праўда, ніхто з памянёных палітыкаў, як высветлілася, не жадалі б бачыць Лукашэнку ўдзельнікам перадвыбарчай барацьбы ў Расіі. А на Украіне падобнае пытанне нават не ўзнікае.

**Віталь ТАРАС.**

# Міжнародныя навіны

### КІЕЎ

Глава МЗС Расіі Ігар Іваноў прызнаў, што ў выніку дзеянняў федэральных сілаў у Чачні ёсць ахвяры сярод мірных жыхароў. Гэтую заяву Іваноў зрабіў на прэсавай канферэнцыі ў Кіеве пасля заканчэння перагавораў з міністрам замежных спраў Украіны Барысам Тарасюком. Іваноў таксама падкрэсліў, што ахвяры ёсць і з боку федэральных органаў. Разам з тым ён назваў не маючымі падставы спекуляцыі абвінавачванні расійскага боку ў тым, што нібыта маюць месца ганенні Чачэнскага насельніцтва на нацыянальнай і рэлігійнай глебе.

— Мы вядзём баявыя дзеянні супраць банд фарміраванняў, падкрэсліў расійскі міністр.

### МАСКВА

Экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў вяртаецца да актыўнай палітычнай дзейнасці. Аб гэтым паведаміў старшыня палітычнага руху сацыял-дэмакратыі Гаўрыіл Папоў, выступаючы на з'ездзе гэтага руху. Па словах Папова Гарбачоў узначаліць ініцыятыўную камісію па стварэнню аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі. Сам былы прэзідэнт Савецкага Саюза прысутнічаў на з'ездзе ў якасці пачотнага госця.

### НЮРНБЕРГ

З'езд апазіцыйнага хрысціянскага сацыяльнага саюза прайшоў у мінулую суботу ў Нюрнбергe. Выступаючыя на з'ездзе падверглі рэзкай крытыцы дзеянні ўрада Германіі начале з канцлерам Герхардам Шродэрам. На думку кіраўніцтва ХСС той факт, што Шродэр парушае свае перадвыбарныя абяцанні, падрывае веру грамадзян краіны ў дэмакратычныя прынцыпы. На з'ездзе адбыліся і выбары старшыні ХСС. Ім стаў зноў цяперашні кіраўнік партыі Эдмунд Штойбер.

Між іншым у той жа дзень прайшлі два з'езды кіруючай сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі. Выступаўшы на іх канцлер ФРГ Шродэр выказаўся за працягваненне палітыкі цяперашняга Урада.

### ЛЕЙПЦЫГ

Урачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя дзесяцігоддзю мірнай рэвалюцыі ў ГДР адбыліся ў суботу ў Лейпцыгу. 9 кастрычніка 1989 года ў гэтым горадзе прайшла адна з буйнейшых дэманстрацый пратэсту, значна паскорыўшая працэс распаду ГДР і ўз'яднання Германіі. На мерапрыемствах у Лейпцыгу прысутнічалі многія вядучыя нямецкія палітыкі, у тым ліку канцлер ФРГ Герхард Шродэр і глава германскага бундэстага Вольфганг Кірза.

### РЫМ

Краіны Еўрапейскага Саюза выступаюць за хутчэйшую змену ўлады ў Югаславіі. Гэта зноў пацвердзіў у суботу ў Рыме ўпаўнаважаны ЕС па ўрэгуляванню на Балканах Бодо Хомбах. Інвестыцыі ў югаслаўскую эканоміку магчымы будуць толькі пасля таго, як у краіне возьмуць верх закон і парадак, падкрэсліў Хомбах.

### КІЛЬ

Германскі бундэсвер распачаў перакідку ваеннаслужачых, якія прымуць удзел у міратворчых аперацыях ва Усходнім Цiморы. У суботу 2 ваенных самалёты бундэсвера былі накіраваны ў Аўстралію. Яны будуць выкарыстоўвацца для транспарціроўкі параненых і хворых жыхароў Цімора ў бяспечныя рэгіёны. Між іншым, камандуючы міжнароднымі сіламі ва Усходнім Цiморы прадставіў план мірнага ўрэгулявання ў гэтай правінцыі. У якасці першапачатковай меры дакумент прадугледжвае разабраенне абодвух варагуючых бакоў, як прыхільнікаў, так і праціўнікаў незалежнасці Усходняга Цімора.

### БЕРЛІН

Канферэнцыя па ўмацаванню еўрапейска-азіяцкага эканамічнага супрацоўніцтва адбылася ў нямецкай сталіцы. У яе рабоце прымалі ўдзел міністры эканомікі краін Еўрапейскага Саюза і Азіі. Адной з тэм абмеркавання на канферэнцыі была і аб магчымым уступленні Кітая ў сусветную гандлёвую арганізацыю.

# І ў спорце заняпад

Футбол, відавочна, многіх людзей цікавіць не менш, чым палітыка.

Свой чарговы матч у рамках першынства Еўропы футбалісты нацыянальнай зборнай Беларусі зноў прайгралі. На гэты раз —швейцарцам, 2:0. І цяпер займаюць у сваёй групе апошняе месца. Крыўдна, але, нажаль, заканамерна.

Чарговая парада дае падставы журналісту паразважаць над тым, што адбываецца зараз у беларускім футболе.

"Дынама-Мінск" быў пазбаўлены статусу акцыянернага таварыства і, як у савецкія часы, узяты пад дзяржаўнае кіраванне і назіранне. Але футбол нават на Беларусі ў гэты час ужо стаў бізнесам. А стаўленне беларускага кіраўніцтва ўвогуле і Лукашэнкі асабіста на бізнесноўцаў добра вядомае. Таму і вымушаны быў пайсці кантакты з клубам ягоны гаспадар Хвастовіч, а вядучыя спартоўцы разбегліся ў Расію, Украіну, Літву, Латвію, не кажучы ўжо пра Польшчу, Нямеччыну, Галандыю. Адсюль і мноства паразаў на міжнародным узроўні. І не толькі нацыянальнай каманды. Нашы лепшыя

## Чаму беларускія футбалісты церпяць паразы?

Нацыянальная каманда Беларусі па футболу на папярэднім этапе першынства Еўропы ўжо правяла 7 гульняў. Вынікі — надзвычай несуцяшальныя: пяць паразаў, дзве нічыі і ніводнай перамогі. І гэта пры тым, што групу, у якую ўваходзіць нашая каманда, эксперты адносілі да ўзроўню сярэдніх. Нават магчымая перамога над камандай Італіі ў апошнім матчы Еўрапейскага чэмпіянату, які адбудзецца ў Менску 9 кастрычніка, нічога не зменіць. Нашыя хлопцы застаюцца на апошнім месцы ў сваёй групе. А якія ж былі надзеі! Добра памятаю арганізацыйнае пасяджэнне нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі два гады таму, калі на ім абіралі прэзідэнта беларускіх алімпійцаў. Тады амаль усе верылі: абярэм на гэтую пасаду Лукашэнку і ён дапаможа вырашыць усе праблемы. Асабліва ў футболе, які, як усім вядома, лічыцца самым прэстыжным відам спорту. У той час Лукашэнка сапраўды цікавіўся футболам. Гэта з ягонай дапамогай і пры ягоным непасрэдным удзеле галоўны футбольны клуб Беларусі клубы цяпер саступаюць, як гэта было месяц таму, нават камандам з Кіпра. Прыехаў вось такі, напалову прыфесійны калектыў з Кіпру, забіў 5 галоў у Мінску і паехаў да хаты. Анатоль Байдачны, які працаваў трэнерам за межамі Беларусі, упэўнены: немагчыма ўзняць узровень футбола ў краіне, дзе нізкі ўзровень эканомікі, дзе адсутнічаюць моцныя фінансавыя карпарацыі, дзе фактычна не існуе адпаведнай інфраструктуры.

Яшчэ адзін вядомы ў мінулым футбаліст і трэнер Уладзімір Курнеў лічыць, што тыя перамогі, якія атрымлівалі беларускія спартоўцы напачатку суверэнітэту, дасягаліся як бы па інерцыі з савецкага футболу. Потым дзяржаўную сістэму падрыхтоўкі зламалі, а новую не стварылі. І пачынаць цяпер трэба з самага пачатку і зусім іншымі метадамі, а не так, як гэта робіцца ў нашай краіне. Тут усё накіраванае на тое, каб знішчыць апошнія парасткі прыватнай ініцыятывы і ўсё забраць у дзяржаўныя рукі.

**Уладзімір ГЛОД.**

# Анекдоты...

Грабитель с пистолетом в руках врывается в банк. Главный бухгалтер испуганно поднимает голову от бумаг и облегченно вздыхает:

— Ах, это вы? Ну, слава богу, а то я думал, что ревизор...

* * *

Банкир Гольдман вручает бедному Лейбе конверт со ста долларами и говорит:

— Бери и благодари Господа, ибо все делается по воле Его.

Узнав об этом, жена Лейбы, Сара, качает и головой и приговаривает:

— Если Гольдман по поручению Всевышнего дал нам сто долларов, то сколько же он взял себе за посредничество?

* * *

**Директор:**

— Вы будете получать пока 20 миллионов в месяц. А позднее — больше.

**Кандидат на должность:**

— Хорошо. Тогда я приду позднее.

* * *

— Ты слышал, кровельщика, что ремонтировал крышу в нашем доме, сбила машина...

— О, ужас! Уже и на крышах сбивают.

## З жыцця вялікіх

Архімед спытаў у жонкі:

— Чаму ў мяне ў апошні час так моцна свярбіць цела?

Тая з усмешкай адказала:

— Ты са сваёй навукай зусім забыўся, што трэба хоць зрэдку мыцца ў лазні ці хоць у ванне.

— Эўрыка! — закрычаў Архімед і палез у ванну.

* * *

Аднойчы Кацярына Другая, уздыхнуўшы, сказала свайму сыну Паўлу:

—А ты, мой сябра, такі ж дурны, як і твой бацька.

— Нічога не зробіш, маман, —адказаў Павел... Генетыка.

# Социльные новости из России

В России за время обучения в школе число детей с плохим зрением возрастает с 9 до 22 процентов, с нарушением осанки с 7 до 10 процентов, со сколиозом с 1 до 8 процентов. За последний год на 40% возросло число школьников, заболевших сальмонеллезом.

* * *

В Южносахалинске заболели холерой еще 3 человека. Всего в городе 8 больных холерой. Состояние одной женщины оценивается как тяжелое. 10 из 17 человек, контактировавших с заболевшими, помещены в изолятор.

* * *

За первые 6 месяцев этого года зарегистрировано 90 тысяч правонарушений несовершеннолетними. Это на 10% больше, чем за аналогичный период прошлого года. В России каждый 10-й преступник —несовершеннолетний.

* * *

В Ярославле, где долги городских властей населению по детским пособиям превысили 70 миллионов рублей, желающим будут защитывать эти деньги при внесении коммунальных платежей за жилье. В других городах области этот опыт не получил распространения, хотя сегодня задолженность по детским пособиям в Ярославльской области превышает 300 миллионов рублей и продолжает расти.

* * *

Наибольшую тревогу россиян, 46%, вызывают рост цен и общее обнищание. Таковы данные опроса, проведенного фондом "Общественное мнение". На втором месте стояли проблемы, связанные с ростом преступности — 32%, угрозой массовой безработицы — 24%, угрозой гражданской войны и массового голода — 23%, спад производства — 20%. Угрозой массового голода больше всего обеспокоены сельские жители.

**Марина КАПИЧ.**

● Эканоміка

# МАРНЫЯ ПАТУГІ ПРЭЗІДЭНТА І ЎРАДА

Эканамічная сітуацыя ў краіне за апошнія тыдзень-два працягвала пагаршацца. Аб гэтым, між іншым, засведчылі слуханні справаздачы ўрада аб выкананні сацыяльна-эканамічных паказчыкаў, прадугледжаных на бягучы год, праведзеныя 7 кастрычніка Аляксандрам Лукашэнкам. На слуханнях сам Лукашэнка заявіў адкрыта, што ў краіне назіраецца рост цэнаў, ёсць высокая інфляцыя і зніжаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. І правільна зрабіў. Што маўчаць. Шыла ў мяшку ня ўтоіш. Пра стан рэальнай эканомікі сведчыць той факт, што 21% прадпрыемстваў не маюць абаротных сродкаў, а 36% маюць гэтыя сродкі ніжэй за нарматыўны ўзровень. Інвестыцыі знізіліся на 3%, многія прадпрыемствы не маюць грошай нават для выплаты заработнай платы. Як заявіў Аляксандр Рыгоравіч, на канец верасня запазычанасць па зарплаце ў краіне дасягнула небывалай адзнакі — шасці трыльёнаў рублёў. Аднак справаздача ўрада спадару Лукашэнку фактычна нічога не дае. Урад як працаваў у рэжыме "пажарнай каманды" ці "хуткай дапамогі" (такая ацэнка яму дадзена падчас справаздачы), так і працуе. Гэта, між іншым, ёсць стыль дзейнасці любога ўрада пры адміністрацыйнай эканоміцы. Так сёння ўрад у пажарным парадку шукае грошы для падрыхтоўкі да зімы і назапашвання харчавання. Літаральна пару тыдняў таму прынята пастанова N 1488, якой урад абавязаў камерцыйныя банкі выдаваць ільготныя крэдыты адпаведным гаспадарчым структурам на патрэбы забеспячэння насельніцтва краіны рыбай і морапрадуктамі, прадукцыяй птушкагадоўлі і жывёлагадоўлі. Шукаюць грошы і на набыццё збожжа. А трэба нямала — 210-220 мільёнаў даляраў. Тое, што субсідыі сельскай гаспадарцы ў гэтым годзе наблізіліся да шасцідзесяці трыльёнаў рублёў і не далі станоўчых вынікаў, адміністрацыя не згадвае. Нібы так і трэба. Адзіным рэагаваннем з'яўляецца хіба тое, што ў перагледжаным бюджэце фінансаванне сельскай гаспадаркі зменшылася на 14%. Але гэта фармальны факт, бо фактычна ўсё фінансаванне перакладзена на адмысловы фонд падтрымкі сельскай гаспадаркі.

Аляксандр Лукашэнка даў ураду шырокія паўнамоцтвы, каб да канца года былі прынятыя любыя меры — адміністрацыйныя, эканамічныя, арганізацыйныя дзеля выканання прагнозных паказчыкаў. Але гэта марныя патугі, чыстая рыторыка, якая ўжывалася і раней без якога-небудзь поспеху. Усе разумеюць, што да гэтага часу эканамічны, рынкавы механізм рэгулявання ўрад выкарыстоўваць не мог. Агульны курс не той. А зараз яму нібыта дазваляюць выкарыстоўваць і рынкавы механізм, каб толькі ратаваць сітуацыю. Так прыпякло! Тапелец хапаецца нават за саломінку. Але на сённяшні дзень ужо позна. Да канца года засталося толькі 77 дзён.

**Уладзімір КУЛАЖАНКА**

## ЗЯЛЁНАЯ АПТЭКА

### ЦЕЛЕБНАЯ ФАСОЛЬ

В народной медицине фасоль считают одним из важнейших лечебных продуктов. В старину блюда из фасоли были обыденной едой. Мы уверены: оттого, что фасоль стала "немодной", что отдают предпочтение картофелю и макаронам, людей и преследуют такие заболевания, как диабет, панкреатит. Конечно, это только одна из причин, но существенная.

Фасоль обладает чрезвычайными качествами. При регулярном употреблении фасоли на зубах не образуется камней. Может быть фасоль предотвращает образование камней и в почках, желчном пузыре? Предположение не безосновательное. Кто знает, чем объяснить, что раньше люди в повседневном питании отдавали преимущество фасоли? То ли времени у них было больше, то ли ума? А может быть они знали о ней что-то такое, что не знаем мы? Ведь когда-то говорили: борщ без фасоли, что ложка без ручки. Взрослые поучали детей: будешь есть фасольку, не заболит животик и сердце будет здоровым.

Что знали наши предки о фасоли, почему так ценили ее? Возможно они уже тогда поняли: фасоль содержит все основные вещества, необходимые для полноценного питания. А по содержанию цинка и меди она занимает первое место среди овощей. Ее белок по составу близок к животным белкам, то есть к мясу, рыбке, а по качеству приравнивается к диетическим куриным яйцам. Он очень хорошо усваивается организмом. Это ценный диетический продукт, который усиливает секрецию желудочного сока. Пюре из фасоли —диетическое блюдо при гастритах для людей с повышенной кислотностью и при заболеваниях печени. Фасоль —хорошее мочегонное средство при почечных отеках или сердечно-сосудистой недостаточности. Это — благодаря солям калия, которые содержатся в ней. В народной медицине применяли стручки фасоли при хроническом ревматизме, почечной водянке (как мочегонное средство в виде настоя 30 г на 1 л воды по полстакана 3-4 раза в день). А от сердечной водянки пили отвар стеблей фасоли вместе со стручками.

Обращались за помощью к фасоли те, кто страдал от ожирения, при регулярном употреблении фасоли за два-три года полностью избавлялись от него. Лечили жировые перерождения печени, подагру, раны, заболевания кожи, экзему, угри. Успешно лечили и незапущенный диабет. В 1946 году ученые доказали, что экстракт фасоли снижает у больных диабетом содержание сахара в крови на 30-40% в течение 10 часов. Заметим: фасолью лечились те, кто по каким-либо причинам не употреблял ее регулярно в пищу. А тому, кто достаточно ел вкусных блюд из фасоли, не было необходимости варить стручки и пить их отвар в лечебных целях.

Красавицы делали маски на лицо из теплой и растертой фасоли, смешанной с растительным маслом и медом. Или смешивали протертую фасоль с соком облепихи либо лимона. Тогда на коже лица исчезали угли, морщины, она становилась гладкой, как на зрелой фасолине.

Прожаренные зерна фасоли мололи и получали приятную душистую пудру, а также лечебную присыпку от опрелостей у детей.

Отвары фасоли никогда не выливали: в них обновляли шерстяную одежду (1 кг фасоли на 5 литров воды).

Наверное, мы бы не стали вспоминать людей, которые жили давно и так любили фасоль, если бы не стремительный рост заболеваемости диабетом. Он теперь поражает даже детей. А происходит это одновременно с уменьшением употребления фасоли.

**Д. и Н. ЗУБИЦКИЕ, фитотерапевты. Киев.**





## ВОСЬ ГЭТА БУЛЬБАЧКА!

Сёлета ў калгасе імя XXII з'езда КПСС Крычаўскага раёна было пасаджана 56 гектараў бульбы. Вырошчвалася яна тут па германскай тэхналогіі з улікам вопыту краін Еўропы. І вынік уразіў. Нават у сёлетнім спякотным годзе накапалі з гектара самае меншае па 300 цэнтнераў буйных клубняў. А на лепшых участках атрымана і па 400 цэнтнераў з га.

Вось як здорава!

Уборку другога хлеба своечасова правялі механізатары Аляксандр Машкетаў і Сяргей Філатаў.

**В.БЫСАЎ, фота аўтара.**



### Тлумачэнні па запаўненню купона для аб'явы

У купоне 4 радкі па 30 клетачак, а ўсяго іх 120. Ваш тэкст бясплатнай аб'явы, значыць, можа мець не больш 120 знакаў-літар, лічбаў і знакаў прыпынку. У кожную клетачку упісвайце разборліва па 1 знаку. Пустую клетку паміж словамі пакідаць не трэба.

Калі ж вы жадаеце змясціць большую аб'яву, то за дадатковую газетную плошчу трэба плаціць па расцэнках, указаных у аб'явах у нумарах газеты за 8 ліпеня і 10 верасня гэтага года.

## БЕЛАРУСКІ УСХОД

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі: 213670, Магілёўская вобл. Хоцімскі р-н, в. Маркаўка**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Тэлефон для даведак: 22-9-89 у Хоцімску.**

